// Голас Радзімы

№ 29 (2067) 21 ліпеня 1988 г. ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА») Выдаецца з 1955 г. Цана 4 кап.



**З МАСКВЫ—З НОВЫМІ ПЛАНАМІ І НАДЗЕЯМІ.**

(«Сустрэча з дэлегатамі XIX Усесаюзнай партканферэнцыі»). стар. 3.

**РОЗДУМ СУАЙЧЫННІКАЎ АБ НАШАЙ ПЕРАБУДОВЕ.**

(Падборку пісьмаў чытайце на 4-й стар.)

**ПАДАРОЖЖА ДА ПОЛЬСКІХ СЯБРОЎ.**

(«Шляхам даўніны і сучаснасці») стар. 6

Купальскую ноч спрадвеку лічылі ноччу цудаў. Паводле народнага павер'я, рэкі ў гэту ноч свецяцца асаблівым прывідным святлом, а звяры, птушкі і нават дрэвы атрымліваюць дар мовы. У купальскую ноч дзяўчаты варожаць на вянках, пускаючы іх на рачную плынь, загадваючы сваё самае запаветнае жаданне. (Працяг фотарэпартажу аб святкаванні Купалля ў сяле Краснае на рацэ Ушы змешчаны на 8-й стар.).

З ПАВЕДАМЛЕННЯЎ ТАСС

## «У ПАЛЁЦЕ — «ФОБАС»

12 ліпеня 1988 года ў Савецкім Саюзе з дапамогай чатырохступеньчатай ракеты-носьбіта «Пратон» ажыццёўлены запуск аўтаматычнай міжпланетнай станцыі «Фобас-2».

Як паведамлялася ўжо, праграмай палёту дзвюх савецкіх міжпланетных станцый, створаных па праекту «Фобас», прадугледжваюцца даследаванні планеты Марс і яе спадарожніка, а таксама міжпланетнай прасторы і Сонца.

Першая станцыя была выведзена на траекторыю палёту да Марса 7 ліпеня 1988 года. Па канструкцыі і прызначэнню станцыі ў асноўным аналагічныя, але ў адрозненне ад першай на другой станцыі ёсць два пасадачныя зонды для даследаванняў Фобаса. Адзін з іх, як і зонд першай станцыі, прызначаны для правядзення даследаванняў і тэлевізійнай здымкі ў месцы пасадкі. Канструкцыя другога зонда дазваляе яму рабіць скачкападобныя перамяшчэнні з мэтай атрымання даных аб характарыстыках паверхні Фобаса ў розных яе пунктах.

Запуск дзвюх міжпланетных станцый дае магчымасць ажыццявіць незалежныя комплексныя даследаванні Фобаса і павышае ў цэлым верагоднасць выканання складанай навукова-тэхнічнай праграмы.

Абедзве станцыі дасягнуць наваколля планеты Марс у канцы студзеня будучага года. Параметры траекторыі іх палёту блізкія да разліковых. Бартавыя сістэмы і навуковая апаратура працуюць нармальна.

Запускам станцый «Фобас-1» і «Фобас-2» у Савецкім Саюзе пачаты лётныя выпрабаванні аўтаматычных касмічных апаратаў новага пакалення, створаных у навукова-выпрабавальным цэнтры імя Г. Бабкіна Галоўкосмаса СССР на аснове вопыту, набытага айчыннай касманаўтыкай пры палётах да Месяца, Венеры, Марса, каметы Галея. Станцыі тыпу «Фобас» будуць выкарыстоўвацца ў якасці базавых аўтаматычных апаратаў пры даследаванні планет Сонечнай сістэмы, у тым ліку пры ажыццяўленні марсіянскай праграмы, якая адкрывае шырокія перспектывы далейшага развіцця міжнароднага супрацоўніцтва ў мірным асваенні касмічнай прасторы.

ВІЗІТЫ

## ЗНАХОДЖАННЕ КІТАЙСКІХ ПРАКУРОРАЎ

У Беларусі знаходзілася дэлегацыя Вярхоўнай народнай пракуратуры КНР. Яна была прынята ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР. Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі У. Мікуліч праінфармаваў гасцей аб ходзе і перспектывах перабудовы, працэсах дэмакратызацыі ў Беларусі.

Кітайскія пракуроры азнаёміліся з арганізацыяй работы органаў пракуратуры рэспублікі, рознымі аспектамі яе дзейнасці, пабывалі ў Мінскім гарадскім судзе.

Госці наведалі мемарыяльныя комплексы «Брэсцкая крэпасць-герой», «Хатынь», Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

НА МІЖНАРОДНЫ КІРМАШ

## КОЛА КОЦІЦЦА... У ГРЭЦЫЮ

Аўтапакрышка для сельскагаспадарчых машын адправілася днямі з аб'яднання «Бабруйскшына» ў далёкую Грэцыю. Там яна стане экспанатам Міжнароднага кірмашу ў Салоніках, які адкрыецца ў верасні.

Сёлета бабруйскія шыннікі атрымалі запрашэнне на ўдзел у міжнародных кірмашах у Чэхаславакіі, Югаславіі, Турцыі. На сёння знешнегандлёвая фірма «Бабруйскшынаэкспарт» заключыла кантракт з замежнымі партнёрамі на 8,6 мільёна рублёў.

СУПРАЦОЎНІЦТВА



**Поўным ходам ідзе рэканструкцыя ў Віцебскім вытворчым тэкстыльным аб'яднанні Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР. Прадпрыемства заключыла дагавор з фірмай «Тэкстыма» (ГДР) на пастаўку новага высокапрадукцыйнага абсталявання. Ужо ўстаноўлены снавальныя і вязальныя машыны, цяпер вядзецца мантаж агрэгатаў цэха хімводаачысткі. Штогод прадпрыемства будзе выпускаць каля паўтара мільёна квадратных метраў махровага палатна. НА ЗДЫМКУ: шэф-інжынер з ГДР Петэр ЭДЭЛЬ (справа) і слесар Юрый ТАЎЛІНСКІ за наладкай абсталявання.**

У ГОНАР ГАДАВІНЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ ВОЙСКА ПОЛЬСКАГА

У сувязі са святкаваннем 45-й гадавіны ўтварэння Войска Польскага ў Беларусі знаходзілася група вайсковых ксяндзоў і капеланаў. Яе ўзначальваў галоўны дэкан Войска Польскага, палкоўнік-ксёндз, доктар Фларыян Клявенда. Група прыбыла для арганізацыі і правядзення патрыятычна-рэлігійных урачыстасцей у Леніне, дзе ў час другой сусветнай вайны адбылося баявое хрышчэнне І-й Польскай пяхотнай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, а таксама з мэтай агульнага знаёмства з рэспублікай.

Праграма знаходжання дэлегацыі прадугледжвала сустрэчы ксяндзоў і капеланаў войска з прадстаўнікамі Савета Міністраў БССР, Палітупраўлення, штаба Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, упраўлення Беларускай епархіі, Генеральнага консульства ПНР у Мінску.

Польскія свяшчэннаслужыцелі ўсклалі кветкі да магіл мемарыяла «Брэсцкая крэпасць-герой». Адбылася сустрэча з прадстаўнікамі брэсцкіх гарадскіх улад, настаяцелямі і прыхаджанамі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў горада.

МАШЫНАБУДАВАННЕ

## ТРАКТАР ДЛЯ КАНАЛА

Сотні кіламетраў каналаў, ірыгацыйных сістэм здольны ачысціць за сезон усяго двое рабочых з дапамогай новага навяснога камплекта дэталей да колавага трактара — каўша, касілак, здрабняльніка і выкідальніка водарасцей.

Выпуск такіх механізмаў, створаных вучонымі Беларускага навукова-даследчага інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі, пачаў завод ірыгацыйнага машынабудавання ў Казахстане. Адсюль агрэгаты будуць паступаць і ў нашу рэспубліку, пакуль у Коханаве на Віцебшчыне не наладзяць такую ж вытворчасць.

Цяпер толькі ў Беларусі тысячы людзей вядуць догляд асушальнай сістэмы. Новая тэхніка значна аблягчыць працу наглядчыкаў каналаў.

ЛІТАРАТУРНЫЯ ЧЫТАННІ

## НА БУЙНІЦКІМ ПОЛІ

Усесаюзныя Сіманаўскія літаратурныя чытанні, прысвечаныя гераічным абаронцам Магілёва, прайшлі ў горадзе на Дняпры.

Тут у ліпеньскія дні 1941 года разгарнуліся жорсткія баі. Танкавыя полчышчы Гудэрыяна рваліся на ўсход, да Масквы. Пад Магілёвам шлях ім перагарадзілі воіны 172-й стралковай дывізіі, апалчэнцы. 12 ліпеня на Буйніцкім полі было падбіта 39 варожых танкаў. Вечарам пасля бою на пярэднім краі абароны пабываў ваенны карэспандэнт Канстанцін Сіманаў. Пра герояў бою ён расказаў у нарысе "Гарачы дзень", апублікаваным у газеце "Известия" 20 ліпеня.

Усё жыццё помніў пісьменнік Буйніцкае поле пад Магілёвам. Ён не раз потым у думках вяртаўся да гераічнай абароны на Дняпры, часта прыязджаў на месцы былых баёў, сустракаўся з іх удзельнікамі.

Там, дзе ў гады вайны праходзіў перадавы рубеж абароны Магілёва, сабраліся цяпер прадстаўнікі Магілёва, пісьменнікі з Масквы і Мінска, дзеячы культуры і моладзь. Адбыўся мітынг памяці герояў-абаронцаў, на якім выступілі ўдзельнікі былых баёў, госці з розных куткоў краіны. Да помніка воінам 388-га стралковага палка, да мемарыяльнага знака Канстанціну Сіманаву ляглі кветкі. Вечарам у Палацы піянераў і школьнікаў адбыліся літаратурныя чытанні. Вырučаныя сродкі пойдуць на будаўніцтва мемарыяльнага комплексу «Буйніцкае поле».

На ўрачыстасці прыехалі Р. Раждзественскі, А. Ваznясенскі, Р. Казакова, І. Шкляраўскі, В. Быкаў, Р. Барадулін, многія іншыя вядомыя паэты і празаікі, дзеячы культуры.

САЦЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА

## СЛУЖБА МІЛАСЭРНАСЦІ

Схадзіць у магазін, прыгатаваць абед, прыбраць у хаце — гэтыя і дзесяткі іншых спраў, такіх клапатлівых для пажылых людзей, у Клімавічах, што на Магілёўшчыне, узяла на сябе служба сацыяльнай дапамогі.

Два разы на тыдзень яе работнікі наведваюць сваіх падапечных і стараюцца выканаць усе іх пажаданні. Прычым не толькі гаспадарчыя. Тыя, хто клопат аб састарэлых людзях зрабіў сваёй спецыяльнасцю, не шкадуюць часу для душэўнай размовы. Трэба — і пісьмо дзецям дапамогуць напісаць, і газету пачытаць. З лёгкай рукі кагосьці з жыхароў райцэнтра новая служба адразу ж атрымала другую назву — міласэрная.

Пачаўшы з дапамогі пенсіянерам, якія пражываюць у горадзе, служба міласэрнасці хутка расшырае зону клопату.

НОВЫЯ ТАВАРЫ

## ЭКЗАМЕН ДЛЯ ЧАРАВІЧКАЎ

Серыю дэманстрацый новых мадэлей сваёй прадукцыі работнікі Магілёўскай доследна-эксперыментальнай абутковай фабрыкі правялі... у дзіцячых садах горада.

Маленькія манекеншчыцы, а таксама іх мамы і выхавальніцы аказаліся самымі патрабавальнымі экзаменатарамі работы мастакоў, канструктараў, абутнікаў. Гэта дапамагло магіляўчанам вытрымаць больш сур'ёзны экзамен — зацікавіць у супрацоўніцтве чэхаславацкую абутковую фірму «Сазаван». Аднатыпныя прадпрыемствы абмяняюцца сёлета загатоўкамі для дзесяткаў тысяч пар абутку.

РАСПРАЦОЎКІ

## ЗОРКАЕ ВОКА «ДЫСКА»

Выявіць у цягніку, што рухаецца, няспраўнасць — значыць прадухіліць катастрофу. Па-сапраўднаму зоркае і пільнае вока на гэта ў прыбораў новага пакалення «Дыск» — дыстанцыйнай сістэмы кантролю. Першы з іх пачаў дзейнічаць на перагоне Міханавічы — Калядзічы пад Мінскам. Рэгіструючы інфрачырвонае выпраменьванне, электроніка інфармуе спецыялістаў станцый аб нагрэве, а значыць, дэфектах колавых буксаў, дае сігнал машыністам збавіць хуткасць.

У тым, што аўтаматыка сочыць за станам дэталей колаў, асаблівай навіны няма. Гэтую функцыю на многіх участках магістралі выконваюць «Панабы» — прыборы папярэдняга пакалення. Аднак на выяўленні нагрэву буксаў іх магчымасці заканчваліся. А ў «Дыска» толькі пачынаюцца. Гэтая сістэма кантролю здольна пастаянна ўдасканальвацца: да існуючых блокаў дастаткова далучаць новыя. У бліжэйшы час у Калядзічах «Дыск» зможа знаходзіць дэфекты саміх колаў, «заўважаць» прадметы, якія, бывае, цягнуцца за вагонамі.

Канструктары Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута чыгуначнага транспарту працуюць над тым, каб зрабіць апаратуру па-сапраўднаму «ўсёвідушчай» — яна разгледзіць перагруз вагонаў, няспраўнасці ў тармазной сістэме. Даныя будуць апрацоўвацца на мікра-ЭВМ.

ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА



**Плешчаніцкая паляўнічая гаспадарка — адна з лепшых у рэспубліцы. Яе калектыў клапоціцца аб беражлівых адносінах да прыроды, аб стварэнні спрыяльных умоў для развіцця паляўнічага спорту, узнаўленні і рацыянальным выкарыстанні запасаў звяроў і птушак. Тут і была створана ферма дзікіх качак для папаўнення імі іншых паляўнічых гаспадарак Беларусі. Клапатлівай гаспадыняй незвычайнага гадавальніка стала Леаніда КІШКУРНА. Штодзень яна збірае 150—160 яек і перадае іх у інкубатар.**

**Пяць год існуе ферма. За гэты час больш дзесяці тысяч вадаплаўных птушак адправіла яна ў паляўнічыя гаспадаркі рэспублікі.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

МАСКВА. Пяцьдзесят страў з бульбы прапанавалі наведвальнікам маскоўскага рэстарана «Мінск» повары з Беларусі ў час дэкады нацыянальнай кухні. Нашы повары, кулінары, афіцыянты дзяліліся прафесіянальнымі сакрэтамі з маскоўскімі калегамі. Абеды і вячэры, прыгатаваныя беларускімі спецыялістамі, карысталіся нязменным поспехам.

БАРАНАВІЧЫ. Незвычайная пляцоўка з'явілася ў саўгасе-камбінаце «Мір» Баранавіцкага раёна. Тут ролю шэф-мантажнікаў выконваюць спецыялісты з ЧССР — сябры па сацыялістычнаму спаборніцтву з Усходне-Чэшскай вобласці. Яны пачалі будаўніцтва механізаванага сенасклада на тысячу тон.

## *СУСТРЭЧЫ З ДЭЛЕГАТАМІ XIX УСЕСАЮЗНАЙ ПАРТКАНФЕРЭНЦЫІ*

**Пасля вяртання з Масквы з XIX партыйнай канферэнцыі яе ўдзельнікі сталі вельмі папулярнымі асобамі. Іх наперабой запрашаюць на сустрэчы працоўныя калектывы, «атакуюць» журналісты, нават амаль усе размовы са сваякамі і знаёмымі пачынаюцца са слоў: «Ну, як там, у Маскве, усё было?..» Так, цікавасць у савецкіх людзей да XIX партканферэнцыі незвычайная. Цэнтральнае тэлебачанне і радыё вялі падрабязны расказ пра ўсе найважнейшыя і найцікавейшыя моманты ў дыскусіях. А газета «Праўда» друкавала поўныя тэксты ўсіх выступленняў. Але жывое слова ўдзельніка форуму, яго асабістыя пачуцці і эмоцыі вельмі многа значаць. Да таго ж людзі хочуць ведаць, з якімі практычнымі планамі вярнуліся дэлегаты канферэнцыі, як на справе будуць вырашацца канкрэтныя праблемы паўсядзённага жыцця.**

**Ведаем, што і многія з нашых суайчыннікаў маюць вялікую цікавасць да тых перамен, што ідуць у жыцці Савецкай краіны, работы партканферэнцыі. Таму мы таксама вырашылі запрасіць на завочную сустрэчу з імі некаторых удзельнікаў беларускай дэлегацыі, якія працавалі на гэтым важнейшым палітычным форуме: генеральнага дырэктара швейнага аб'яднання «Камсамолка» Анатоля БІЕНЧЫКА і галоўнага рэжысёра Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага ў Мінску Валерыя МАСЛЮКА. Гутарку вядуць журналісты «Голасу Радзімы» Галіна УЛІЦЁНАК і Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# АБМЕРКАВАННІ ТРЭБА ЎЖО СПЫНІЦЬ

**Першае пытанне, з якога пачалася гутарка з Анатолем БІЕНЧЫКАМ, было такое:**

**— Асабіста вас якія дыскусіі цікавілі больш: абмеркаванне эканамічных, гаспадарчых праблем ці агульнапалітычных?**

— Мне нават цяжка падзяліць усе дыскусіі, што ішлі на XIX партканферэнцыі толькі на эканамічныя ці экалагічныя, культурныя ці палітычныя. У сучасным жыцці ўсё настолькі цесна пераплятаецца і ўзаемазвязана, што нельга, проста не атрымліваецца весці размову аб нечым вузкаспецыфічным, тым больш з трыбуны партыйнай канферэнцыі, якая, па сутнасці, вырашала, як нам жыць заўтра.

Хаця, безумоўна, мяне, гаспадарніка, дырэктара вялікага прадпрыемства, асабліва хвалюе ход, а дакладней, частая прабуксоўка нашай эканамічнай рэформы і нават абарона яе.

**— Вы лічыце, што, у прынцыпе, гэты эканамічны дакумент — Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні) добры?**

— Так, своечасовы і ў цэлым правільны дакумент прыняты ўрадам. Але на справе рэалізацыя яго ідзе не так, як хацелася б. Памятаеце, у выступленнях многіх дэлегатаў размова ішла пра дзяржаўны заказ. Ён уключае найважнейшыя віды прадукцыі ў дзяржаўны фонд.

Мелася на ўвазе, што такая форма ўзаемаадносін прадпрыемства і кіруючых планавых органаў дапаможа «развязаць рукі» дзелавым людзям, дырэктарам заводаў, фабрык. А што пакуль атрымліваецца на справе? Дзяржзаказ ахоплівае ўсю, стопрацэнтна, прадукцыю, якую выпускае прадпрыемства, тым самым скасоўвае магчымасць гаспадарчага манеўравання, гаспадарчай самастойнасці. Да таго ж літаральна «навязвае» выпуск некаторых відаў прадукцыі, не лічачыся з інтарэсамі самых вытворцаў.

Але і палітычны бок дыскусій захапіў мяне не менш. Бо калі будзе выбраны правільны палітычны курс, то і эканамічныя праблемы хутчэй вырашацца.

**— Ці не маглі б вы прывесці прыклад такой сувязі?**

— Самы просты. Дэмакратызацыя і публічнасць сталі прычынай таго, што сёння людзі больш слухаюць адзін аднаго. У тым ліку і на вытворчасці начальнікі — сваіх падначаленых. Больш улічваюць іхнія меркаванні, уважліва аналізуюцца ўсе прапановы і варыянты рашэнняў задач. А гэта вядзе самым прамым шляхам і да значнага эканамічнага эфекту. Адна галава добра, а некалькі — лепей. Так гаворыць народная мудрасць.

**— Я чытала, што ўсе дэлегаты мелі наказы ад тых, хто іх выбіраў на канферэнцыю, гэта значыць просьбы аб вырашэнні неадкладных праблем. Ці былі ў вас наказы і які іх лёс?**

— Былі наказы і ў мяне. 420 усяго. Але мно[illegible] з іх паўтараліся. Ад мяне патрабавалася нейкім чынам паставіць узнятыя пытанні перад канферэнцыяй, прыцягнуць да іх увагу адпаведных устаноў, якія ў стане дапамагчы. Я саставіў сабе цэлы спіс. І пакуль ішло абмеркаванне даклада, дыскусіі, выкрэсліваў тыя пункты, аб якіх ужо ішла гаворка з трыбу[illegible] праблемы, дарэчы, як высветлілас[illegible] у нас усіх практычна агульныя. Сам я не выступаў. Таму тое са спіса, што, на мой погляд, засталося невысветленым, перадаў у сакратарыят канферэнцыі для далейшага аналізу і прыняцця рашэнняў.

**— Анатоль Мікалаевіч, пэўна, вы вярнуліся з Масквы з нейкімі новымі планамі, надзеямі. Але ці ўсё вас радуе, калі бераецеся за канкрэтную справу? Аб праблемах з дзяржзаказам мы ўжо ведаем. Можа, іншых няма?**

— Каб так было! Вось яшчэ адна вельмі хвалюючая мяне тэма: як пашырыць гаспадарчы разлік за межы вытворчасці, прадпрыемства. Ведаеце, намнога лягчэй дыхаць і працаваць стала б. Трэба, каб не толькі фабрыка ці брыгада трымаліся на гаспадарчым разліку, але і міністэрствы, ведамствы, ды і органы Савецкай улады таксама. Гасразлік на нашым аб'яднанні апраўдаў сябе: за апошні час мы правялі рэканструкцыю вытворчасці, у час якой пабудавалі аздараўленчы комплекс, некалькі павысілі заработную плату работнікам, увялі бясплатнае харчаванне для тых рабочых, хто працуе на канвееры. Дарэчы, на гэта ідзе 130 тысяч рублёў за год.

**— Даводзіцца чуць, гэта і на канферэнцыі прагучала, што перабудову тармозяць не толькі бюракраты. Ёсць і сярод працоўных людзей такая праслойка, што лічаць: «мне, мауляў, і так добра, не жадаю варушыцца і грошай больш не хачу, але і працаваць болей, чым сёння працую, не буду». Ці сустракаліся вы з падобнай з'явай?**

— Можа, дзе такія і ёсць, але я не сустракаў. Наадварот, рабочыя людзі горача падтрымліваюць усе перамены. Яны цвяроза ацэньваюць нашы сённяшнія і свае ўласныя здабыткі і разумеюць, што працаваць нам [illegible] трэба больш і лепш. Асноўная мас[illegible]цоўных шчыра жадае палепшыць становішча сваё асабіста і ўсёй краіны.

**— Анатоль Мікалаевіч, ці лічыце вы, што канферэнцыя расставіла ўсе кропкі?**

— Гэтага і нельга [illegible]о ад яе патрабаваць. Быў вызначаны агульны, стратэгічны накірунак нашай дзейнасці. А расстаўляць усё па сваіх месцах будзем па меры руху наперад. І яшчэ. Канферэнцыя дала ацэнку зробленаму за тры мінулыя гады. А гэта вельмі важна: мець дакладны пункт адліку.

Зараз мы вельмі многа расказваем пра канферэнцыю, вось і сустрэч разам з вамі, у мяне ўжо было шмат. Я лічу, што пара заканчваць абмеркаванне рашэнняў, прынятых на канферэнцыі, выступаць з трыбуны. Трэба закасваць рукавы і пачынаць працаваць. А праз пэўныя адрэзкі часу аналізаваць вынікі гэтай працы, прычым па чоткім і канкрэтным крытэрыі: ці з'явілася сёння тое, чаго ўчора нам яшчэ не хапала або не было наогул. Калі адказ будзе станоўчы, значыць працавалі добра і атрымалі той вынік, які і патрэбны.

# СПРАВА ЖЫЦЦЯ

**Валерый МАСЛЮК, галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага**

—Я думаю, што галоўным у жыцці для кожнага чалавека павінна быць яго справа. Рабіць яе, у сілу сваіх магчымасцей і здольнасцей, варта як мага лепш. Выдатна, калі гэтаму спрыяюць палітычная, грамадская абстаноўка ў краіне. Спадзяюся, што сёння мы жывём менавіта ў такі час. Разам з эканомікай прыкметнае ажыўленне, уздым, якія прынесла перабудова і публічнасць, перажывае і культура. Значна больш магчымасцей з'явілася і ў тэатра. Яшчэ не так даўно, нават у самых вострых па ранейшых мерках спектаклях, даводзілася ў лепшым выпадку абмяжоўвацца канстатацыяй факта. Але ж больш важна не проста назваць праблему, адлюстраваць з'яву, а асэнсаваць яе, знайсці вытокі. Каб гэта зрабіць, можа і не заўсёды варта спяшацца ўслед за падзеяй. Тэатру патрэбны высокамастацкія творы, а не публіцыстыка.

У дакладзе на XIX партканферэнцыі М. С. Гарбачоў сказаў, што мастацтва павінна быць шматгранным. Гэта датычыць і кінематографа, і жывапісу, і, канешне, тэатра, які мне найбольш блізкі. Думаю, што новыя магчымасці мы зможам увасобіць у новых спектаклях. Зараз калектыў на гастролях, а перад самым ад'ездам адбылася прэм'ера. Тэатр падрыхтаваў новы спектакль па п'есе выдатнага беларускага драматурга Аляксея Дударава «І быў дзень». Мне здаецца, што гэта якраз той спектакль, які патрэбны сённяшняму тэатру і сённяшняму гледачу. Ён пра ўсё тое, чым мы жывём, што пераадольваем.

Яшчэ мару паставіць добрую дзіцячую казку. Дабрыня, прыгажосць — катэгорыі вечныя. На іх свет трымаецца, на іх і трэба выхоўваць падрастаючае пакаленне. З дзяцей жа ўсё пачынаецца. Якімі мы іх выхаваем, такім будзе грамадства і краіна ў будучыні.

З думкай аб будучыні тэатра набіраю зараз І курс у тэатральна-мастацкім інстытуце. Спадзяюся, што для кожнага з прынятых тэатр назаўсёды стане галоўнай справай жыцця.

**— Валерый Васільевіч, які момант на XIX партканферэнцыі быў для вас самым хвалюючым?**

— Перад пачаткам даклада М. С. Гарбачова. Чаканне. Вось зараз падымецца на трыбуну, пачне гаварыць. Такая цішыня стаяла ў зале, што, здавалася, чуеш стук не толькі ўласнага сэрца, але і пульс суседа. Гэта была хвіліна найбольшага напружання.

**— А было штосьці такое, што выклікала незадаволенасць?**

— Я думаю, што канферэнцыя магла б быць даўжэйшай. Было многа надзвычай цікавых выступленняў. Людзі гаварылі шчыра, усхвалявана, зацікаўлена.





# ПЕРСПЕКТЫВЫ «ПРАГРЭСУ»



**Статус аграпрамысловага камбіната набыў вядомы ў рэспубліцы калгас «Прагрэс» Гродзенскага раёна (слынныя Верцяляшкі) — у гаспадарцы створаны падсобныя прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі. Свае паслугі калгас прапаноўвае і ўладальнікам асабістых гаспадарак, што дазваляе атрымаць прадукты харчавання з уласнай сыравіны.**

**У калгасе-камбінаце створана праектна-канструктарскае бюро, якое распрацоўвае тэхналогію, дакументацыю на будаўніцтва. Ужо дзейнічаюць уласны малочны завод, які выпускае смятанку і сухое малако, бройлерная фабрыка. Не менш за дзвесце тон прадукцыі дасць сёлета і каўбасны цэх. У гаспадарцы працуюць сокавы завод, сталярна-мэблевы цэх, пачата будаўніцтва цяплічнага камбіната. Для рэалізацыі сваёй прадукцыі гаспадарка адкрые неўзабаве ў Гродне фірменны магазін і кафэ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Аляўціна і Юрый ЯРОМА працуюць у калгасе ўжо 17 год. Юрый Іванавіч — намеснік старшыні калгаса па быту, Аляўціна Піліпаўна — дызайнер; у сям'і Леаніда і Лідзіі РАЗМЫСЛА нядаўна нарадзіўся сын Саша. Бацька малога — электрык, маці — птушніца; лабарант Г. ТАЛМАЧОВА за праверкай якасці прадукцыі сокавага завода.**

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# ЗАСТАЁМСЯ ПАТРЫЁТАМІ

Даўно не пісалі вам. Але не забывайце, што мы жывём ужо дзевяты дзесятак год і хутка напісаць грунтоўнае пісьмо не так проста. Нашы гады насычаны самымі рознымі падзеямі — ад першай сусветнай вайны да сённяшніх дзён, калі наша Радзіма ператварылася з адсталай у адну з мацнейшых дзяржаў у свеце. Здарылася так, што нашы родныя краі былі акупіраваны буржуазнай Польшчай і нам на сваёй зямлі даводзілася зведваць розныя прыцясненні — што скажуць, тое і рабі, гавары ціха, пасля дзевяці гадзін трэба было зусім маўчаць. Інакш — турма і катаванні. Вось што прымусіла павесіць сабе на шыю бірку эмігранта і паехаць у іншую краіну, якая вызначалася большай дэмакратыяй. Давялося і тут, за няблізкім светам ад Радзімы, зазнаць капіталістычнага раю, як гаворыцца, дасыта і да адвалу. Стараліся з усіх сіл вярнуцца ў Савецкі Саюз. Усё да гэтага і ішло, але перашкодзіў вераломны напад гітлераўскіх войск на нашу Радзіму. Дарога туды аказалася адрэзанай на доўгія гады. Многае давялося перажыць, але мы заўсёды былі і застаёмся патрыётамі сваёй любімай Айчыны. Таму нам асабліва цяжка чытаць у газетах, слухаць па радыё і тэлебачанні адкрыты і злосны паклёп на Савецкі Саюз. Стварылася такое ўражанне, што акрэдытаваныя ў нас на Радзіме замежныя журналісты толькі і робяць, што шныраць па закутках Масквы і іншых гарадоў, каб выкапаць які-небудзь бруд і распаўсюдзіць яго па ўсім свеце. Вядома, у жыцці Савецкай краіны было і ёсць нямала недахопаў. Але ж нельга прадстаўляць савецкі народ так тэндэнцыйна, толькі праз іх і абсалютна не заўважаць яго сапраўды грандыёзных поспехаў на шляху сацыялістычнага развіцця. Хіба не было гіганцкіх будоўляў? Хіба ёсць у Савецкім Саюзе беспрацоўныя і бяздомныя? Хіба не наша Радзіма першай трапіла ў космас і першай зрабіла крок да таго, каб пазбавіць чалавецтва ад пагрозы знішчэння? Мы не раз прыязджалі ў Беларусь і сваімі вачамі бачылі, наколькі лепшым стала жыццё людзей. Мы аб такім некалі і марыць не маглі. Усяго гэтага буржуазныя журналісты не бачаць на працягу сямідзесяці год. Аслеплі!? Ды не. Проста такая буржуазная «свабода слова». Калі б яны пісалі ўсю праўду, то не атрымалі б грошай і страцілі б работу. Іх гаспадарам праўда не патрэбна.

Пішам мы аб усім гэтым таму, што вельмі ўважліва сочым за жыццём на Радзіме, добра яго ведаем. І вось цяпер у Савецкім Саюзе ідзе пачатая Камуністычнай партыяй перабудова, публічнасць стала неад'емнай часткай жыцця. Вельмі многае мяняецца і мяняецца да лепшага. Становяцца адкрытымі для ўсіх закрытыя раней старонкі гісторыі, многа гаворыцца аб розных памылках і злоўжываннях. Мы разумеем, што гэта робіцца для таго, каб пазбегнуць іх паўтору. Радыкальныя перамены адбываюцца і ў эканоміцы. Няхай вынікі пакуль не зусім значныя, але яны ёсць і з часам стануць вельмі важкімі. Мы бачым, што партыя і ўрад накіроўваюць свае намаганні на тое, каб палепшыць дабрабыт усяго народа. І што ж? Нядаўна слухаем перадачу адной з канадскіх радыёстанцый. Бяруць інтэрв'ю ў канадскага журналіста, які толькі што прыехаў з Савецкага Саюза. Пытанняў было многа. Аб тым, як жывуць савецкія людзі, аб публічнасці і перабудове. Шчыра кажучы, з яго адказаў здавалася, што наша Радзіма ўжо прапала. Нічога ў яе няма, усе галодныя. Толькі тыя, хто займае высокія пасады ва ўрадзе, і кіраўнікі-камуністы жывуць добра. Але думаем, ужо нядрэнна, што хоць камуністы не галадаюць. Яны стараюцца ў рэшце рэшт накарміць і апрануць усіх пачалавечы. Не так, як у нас, кормяць усіх беспрацоўных, бяздомных і галодных раз у год на каляды, а пасля гэтага гаротнікам даводзіцца хадзіць па прыватных дамах з працягнутай рукой і жабраваць дзеля Хрыста. І жыць ім даводзіцца не ва ўласным доме, а туліцца ў скляпеннях ці на вентыляцыйных рашотках метро, дзе ёсць бясплатнае цяпло. Гэта таксама не выдумка, аб гэтым было афіцыйнае паведамленне па тэлебачанні.

Брыдка бачыць такую рэальнасць у самых багатых капіталістычных краінах. У сувязі з гэтым хачу ўспомніць і адно з выступленняў прэзідэнта Рэйгана ў час яго візіту ў Маскву. Ён сказаў, што кожны амерыканец мае права жыць там, дзе яму хочацца. І калі бяздомны жадае жыць у кардоннай скрыні на вуліцы, то дзяржава нічым перашкодзіць яму не можа. Гэта і ёсць сапраўдная амерыканская дэмакратыя. Дык вось гэтым журналістам усё ж варта было б ведаць, што як ні дрэнна, з іх пункту гледжання, жывецца ў Савецкім Саюзе, але ні беспрацоўных, ні бяздомных і галодных там няма. Аб гэтым і трэба расказваць у сваіх карэспандэнцыях, каб развіваць дружбу і ўзаемаразуменне паміж народамі, а не ствараць «вобраз ворага».

Нас вельмі радуе, што перабудова, якая ідзе ў Савецкім Саюзе, знайшла сваё адлюстраванне ў міжнародных справах. Калі ўжо прэзідэнт Рэйган, які яшчэ нядаўна называў нашу Радзіму «імперыяй зла», змяніў да яе адносіны і нават адважыўся прыехаць у Маскву, гэта што-небудзь ды значыць. Сустрэчы кіраўнікоў дзвюх вялікіх дзяржаў і тыя рашэнні, якія на іх прымаюцца, прыцягваюць увагу ўсіх людзей. Бо перш за ўсё ад адносін паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі Амерыкі залежыць, якой будзе будучыня нашай планеты. Тое, што адбываецца ў гэтых адносінах цяпер, усяляе ў нас надзею: ядзерную пагрозу можна будзе ў будучыні ліквідаваць назаўсёды і нашы дзеці і ўнукі атрымаюць ад нас у спадчыну цудоўную планету Зямля цэлай і прыгожай.

**Надзея і Рыгор МАРТЫНЮКІ.**

Канада.

# КАБ ВЫКАРАНІЦЬ ЗЛО

Паважаная рэдакцыя! З цікавасцю назіраем за перабудовай на Радзіме. Радуемся пераменам, якія адбываюцца, а з другога боку, я вельмі ўзрушана тым, што было ў мінулым і што мае месца яшчэ і цяпер.

Заўсёды лічыла, што масу трэба выхоўваць асцярожна і захоўваць цэнзуру ў друку.

Прэса — гэта вельмі далікатны выхаваўчы сродак, але, на жаль, вельмі часта атрымліваецца, «куды вецер, туды і я».

І мы гэтым грэшныя, утойваем негатыўныя бакі.

Прачытаўшы артыкул аб рэабілітацыі Зіноўева і Каменева, я жахнулася. Усё жыццё мы іх лічылі лютымі ворагамі народа і толькі нядаўна даведаліся, што гэта былі сумленныя бальшавікі-рэвалюцыянеры.

Міжволі мы былі ўсе саўдзельнікамі сапраўдных ворагаў у сталінскую эпоху і нават пазней, бо ненавідзелі гэтых людзей.

Не апошнюю ролю ў гэтым адыграла прэса.

Сэрца абліваецца крывёю, калі чытаеш аб адданых сацыялізму людзях, сапраўдных барацьбітах, сумленных патрыётах — зняважаных і нават расстраляных.

Аказваецца, што і ў нас былі Аміны і Палпоты. Было. Перагорнем старонку гісторыі.

А цяпер? Аказваецца, сацыяльная несправядлівасць і цяпер мае глыбокія карані, з якімі нялёгка будзе справіцца.

Прачытала ў «Известиях» артыкул «Шосты год». Шосты год чалавек не можа дабіцца сацыяльнай справядлівасці, і гэта пасля 3-х год перабудовы, пры сацыялістычным ладзе. Уражана, чытала са слязамі.

Наносіць сумленным працаўнікам такія маральныя траўмы — недаравальна.

Аднойчы чытала ў «Литературной газете» гісторыю прафесара універсітэта, сумленнага чалавека, здольнага, паважанага калектывам. Ён пакрытыкаваў кіраўнікоў універсітэта, якія прысвойвалі сабе незаконна чужыя дысертацыі.

З'елі, выгналі, з цяжкасцю ўладкаваўся на працу начным вартаўнікам за 70 рублёў у месяц. Нідзе не прымалі з-за яго высокага рангу.

Няўжо ўсе гэтыя адміністрацыйна-камандныя жулікі так і застануцца пры высокіх пасадах? Бо яны багі і цары, варочаюць лёсамі сумленных працаўнікоў, калечаць ім здароўе і душу. Паспрабуй сцягнуць усіх гэтых «буржуяў» з іх крэслаў, сядзяць яны моцна і адзін аднаго ахоўваюць. Перабудова іх не тычыцца.

Пішу вам усё гэта, таму што маральна я перажываю, нічога мяне ў жыцці так не абурала, як сацыяльная няроўнасць і несправядлівасць.

Ведаючы шматпакутную гісторыю нашага савецкага народа, скажу: ён гэтага не заслужыў. У імя чаго праліта так многа крыві барацьбітоў за дэмакратыю, за сапраўдны сацыялізм?!

Каб выкараніць зло, неабходна яго выкрыць, апублікаваць, але вельмі балюча пра ўсё гэта даведвацца.

Падзялілася з вамі сваімі перажываннямі. Людзі на Захадзе цяпер добра гавораць пра нашу краіну і асабліва пра яе кіраўніка. Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў за кароткі час многа зрабіў пазітыўнага ва ўнутранай і знешняй палітыцы.

Прачытала выступленне акадэміка Сахарава на прэс-канферэнцыі ў Маскве «Палітыка заслугоўвае давер'я». Цікава і павучальна. Не даспадобы яго выступленне прыйшлося заходнім журналістам. З яго вуснаў ім хацелася пачуць крытыку для раздування прапаганды. Падабаецца ім у нас усё дрэннае, а не добрае.

Чалавеку, які жыве за мяжой, не прадастаўлены шырокія паўнамоцтвы пісаць пра перабудову. Для гэтага неабходна паездзіць па краіне, сустракацца з людзьмі, пашырыць свой кругагляд, і тады атрымаецца правільны, праўдзівы матэрыял. А што напішаш, седзячы ў сваім доме? Перапісваць ужо напісанае?

З вялікай асцярожнасцю я асабіста стаўлюся да гэтай тэмы.

Са шчырым сяброўскім прывітаннем

**Любоў МАГЛАВА.**

Бельгія.

# НЕ ПАЎТАРЫЦЬ ПАМЫЛАК

Дарагія сябры!

Мне было вельмі прыемна ўбачыць, што вы надрукавалі ў «Голасе Радзімы» маё апошняе пісьмо. Таму зноў хачу падзяліцца сваімі думкамі. Я, вядома, таксама ў курсе справы, як цяпер у вашай краіне ідзе перабудова ва ўсіх галінах жыцця, таму што рэгулярна чытаю вашу газету, а таксама газеты і часопісы з Масквы і Кіева. Гэта дае мне многа інфармацыйнага матэрыялу аб Савецкім Саюзе і дазваляе сачыць за падзеямі, якія адбываюцца на маёй Радзіме. Мяне вельмі радуе, што партыя ўзяла курс на публічнасць ва ўсіх справах, што народу адкрыты страшныя старонкі гісторыі нашай Радзімы. Гісторыю, якой бы горкай яна ні была, трэба ведаць, каб не паўтараць ранейшых памылак. Было б недаравальна, калі б зноў усталяваўся культ асобы, як гэта было са Сталіным. Колькі нявінных людзей пацярпелі тады! Я чытаю, што цяпер пераглядаюцца многія справы, людзей рэабілітуюць, вяртаюць ім іх сумленныя імёны. Але ж тых, хто загінуў, ужо не вернеш. Вось чаму я цалкам згодны з тым, што партыя асудзіла гэтую з'яву ў гісторыі нашай Радзімы. Гэта з'яўляецца гарантыяй таго, што яна не паўторыцца і што ў будучыні развіццё савецкага грамадства пойдзе па шляху, прадвызначаным вялікім Леніным.

Ужо цяпер мы з упэўненасцю можам сказаць, што ў Савецкім Саюзе поўнасцю захоўваюцца дэмакратычныя правы і свабоды грамадзян, хаця апошнім часам заходнія краіны, асабліва ЗША прад'яўляюць многа надуманых і неабгрунтаваных прэтэнзій наконт гэтага. На жаль, яны забываюць аб правах чалавека ў сябе дома.

Таму я лічу, што ўсе планы і ідэі, якія выказваюцца партыяй, яе Генеральным сакратаром М. С. Гарбачовым, што тычаць публічнасці і перабудовы, трэба вітаць ад усёй душы не толькі савецкім грамадзянам і ўсім суайчыннікам, хто знаходзіцца за межамі сваёй Радзімы, але таксама і людзям усіх заходніх краін, таму што гэтыя планы і ідэі сапраўды без перабольшання можна назваць геніяльнымі. І можна цвёрда быць упэўненым, што ў будучыні яны ператворацца ў рэчаіснасць і прынясуць дабрабыт людзям не толькі на нашай Радзіме, але і ва ўсім свеце. Жадаю вам поспехаў у рабоце па ажыццяўленню гэтых ідэалаў!

**Аляксандр КРАШАНІННІКАЎ.**

ЗША.

# З'ЯВІЛАСЯ НАДЗЕЯ

Вялікае дзякуй за тое, што не забываеце нас, за вашу газету, якая рэгулярна прыносіць нам весткі з роднай Беларусі. Мы пастаянна сочым за ўсімі падзеямі на Радзіме. А сёння яны самым цесным чынам звязаны з развіццём падзей ва ўсім свеце. Дастаткова сказаць, якую вялікую цікавасць выклікалі ва ўсіх людзей сустрэчы кіраўнікоў СССР і ЗША. Гэта, без сумнення, гістарычныя падзеі. У народаў свету з'явілася надзея, што небяспечная ядзерная зброя будзе знішчана. Тут, у Галандыі, увесь народ выказваў сваё задавальненне самім фактам, што такія сустрэчы цяпер сталі магчымыя, вітаў падпісанне дагавора аб скарачэнні ракет сярэдняй і меншай дальнасці. Праўда, мы былі некалькі расчараваны тым, што ў час сустрэчы ў Маскве не было падпісана чарговага пагаднення па скарачэнню ўзбраенняў. Але мы бачым, што заклік Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова да перабудовы міжнародных адносін, да новага мыслення ў ядзерны век ужо знаходзіць водгук і падтрымку ў кіраўнікоў заходніх краін. Усе разумеюць, што дапусціць ядзерную вайну нельга. Таму мы ўпэўнены, што новае пагадненне аб скарачэнні ракет, якое цяпер рыхтуецца прадстаўнікамі СССР і ЗША ў Жэневе, будзе ў хуткім часе падпісана.

Трэба сказаць, што савецкі лідэр М. С. Гарбачоў стаў вельмі папулярным у Галандыі. Тут нават у адзенні ўвайшла ў моду савецкая сімволіка, надпісы на рускай мове «гласность» і «перестройка». Кніга Міхаіла Гарбачова аб перабудове была перакладзена і ўжо некалькімі тыражамі выдадзена ў Галандыі. Раскупляюць яе адразу, як толькі з'яўляецца ў магазінах, і чытаюць з вялікай цікавасцю. Вядома ж, прачыталі яе і мы, суайчыннікі, хто жыве ў Галандыі. Мы вітаем і падтрымліваем курс савецкага ўрада на перабудову ў эканоміцы, у сацыяльнай, палітычнай і культурнай галінах. Ад ўсёй душы жадаем вам поспехаў у гэтай справе.

Варта таксама адзначыць, што капіталістычная прэса па-ранейшаму стараецца прадставіць нашу Радзіму не ў лепшым святле. Цяпер у яе ёсць магчымасць скарыстоўваць многія негатыўныя факты, аб якіх пішацца ў вашых газетах. Зразумела, што недахопы ў Савецкім Саюзе ёсць, таму і спатрэбілася «перабудова» і «публічнасць». Але людзям не тлумачаць, што аб усім гэтым адкрыта пішацца ў савецкай прэсе і менавіта з той мэтай, каб усе савецкія людзі пра іх ведалі, каб мелі магчымасць гэтыя недахопы выпраўляць і пазбегнуць іх у будучыні. Тут хацелася б успомніць словы вядомай байкі — ці не лепш на сябе зірнуць? Напрыклад, у нас у Галандыі ўжо каля мільёна беспрацоўных. Кватэры даражэюць кожны год на 3-5 працэнтаў. Мы цяпер плацім за тры маленькія пакойчыкі пяцьсот гульдэнаў у месяц. Прадукты таксама дарагія. Многа жулікаў і наркаманаў, вечарам страшна выйсці на вуліцу. Так што праблем і тут дастаткова. І мясцовай прэсе трэба было б больш думаць аб тым, як іх вырашыць у сваёй уласнай краіне.

**Надзея ГАЛІЁНКА.**

Галандыя.

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Апублікаваныя сёння пісьмы працягваюць пачатую нашымі чытачамі ў папярэдніх нумарах размову аб перабудове. Як бачыце, думкі выказваюцца розныя, іншы раз спрэчныя. Мы ўпэўнены, што пытанні, якія закранаюцца ў апублікаваных пісьмах, хвалююць большасць нашых замежных суайчыннікаў, і запрашаем усіх жадаючых прадоўжыць размову аб перабудове, выказаць свае думкі аб ёй. Будзем удзячны за вашы пісьмы на гэтую тэму.**

## *ВМЕСТЕ С ЛЕНИНЫМ, ПРОТИВ ЛЕНИНА, ЗА СОЦИАЛИСТИЧЕСКУЮ РЕВОЛЮЦИЮ*

# ЗАБЫТЫЙ АЛЕКСАНДР БОГДАНОВ

В 1984 году, когда слово «перестройка» еще не звучало на всех языках мира, известный советский ученый академик Никита Моисеев в одной из своих книг написал: «Любая организация, как бы она ни была совершенна в своей деятельности, как бы хорошо ни соответствовала своей первоначальной задаче, однажды будет нуждаться в коренной перестройке». Эти необычайно актуальные для того времени слова были почти дословной цитатой из работ человека, имевшего тогда репутацию отошедшего от марксизма еретика, которого за его ошибки жестоко критиковал Ленин. А был тот человек и экономистом, по чьим учебникам изучали экономику в первые годы Советской власти. И философом, создавшим «тектологию»—«общую теорию организации», предшественницу кибернетики и теории систем. И литератором, написавшим самый популярный научно-фантастический роман своего времени. И, наконец, врачом, поставившим опыт на самом себе и погибшим на своем посту... Имя этого человека — Александр Богданов (1873—1928).

В 1988 году — уже в эпоху гласности — академик Моисеев вновь обратился к «сверхактуальной», по его мнению, теории организации.

— К сожалению,— говорит академик Моисеев,— широким кругам специалистов часто даже неизвестно о существовании организационной науки, о тех фундаментальных знаниях, которые возникли в ее рамках. Между тем я убежден, что от развития теории организации и умения пользоваться ее выводами зависит будущее социалистического общества, ибо именно эта теория способна помочь эффективно использовать ресурсы страны, ее интеллектуальный и нравственный потенциал.

Почему же теоретические идеи, столь важные для практики социалистического хозяйства, оказались неизвестными широким кругам специалистов? Одна из причин — сложность и драматизм судьбы создателя «тектологии».

Александр Богданов, автор первого марксистского учебника по экономике (изданного еще до революции, в 1897 году), в начале века был одним из лидеров российской социал-демократии. Рядом с Лениным боролся с меньшевиками после II съезда партии (1903 год), вместе с Лениным и Леонидом Красиным подготовил III съезд (1905 год). Ленин, Богданов и Красин возглавили и избранный съездом первый большевистский ЦК партии. В период русской революции 1905 года Богданов являлся одним из редакторов первой легальной большевистской газеты «Новая жизнь».

Однако после поражения революции Богданов разошелся с Лениным по тактическим и философским вопросам, был подвергнут им сокрушительной критике, а после неудачной попытки вести самостоятельную фракционную линию отошел от политической деятельности и целиком посвятил себя науке.

Тем не менее Богданов всю жизнь оставался убежденным сторонником коммунизма. Суть его взглядов заключалась в следующем: он считал, что для построения социализма необходимо, чтобы рабочий класс преобразовал всю мировую науку, выработав «единую универсальную науку», которая даст возможность каждому члену общества заниматься различными видами труда. Преодолеть дробление на сверхузкую специализацию людей, устранить деление общества на организаторов-повелителей и исполнителей-подчиненных — в этом видел Богданов задачи пролетарского социализма и «организационной науки» тектологии (от греческого «тектон» — «строитель»).

Восприняв Великую Октябрьскую революцию как огромное социальное завоевание, Богданов не считал ее началом прямой победы социализма.

Расхождение с большевиками в оценке характера Октябрьской революции, неприятие Лениным философских взглядов Богд[illegible]ова, критика богдановской культурн[illegible] рограммы Лениным и Бухариным [illegible] зачеркивали, однако, все то ценное, что было в научных идеях Богданова. Хотя его стремление найти общие универсальные принципы, одинаково приложимые и в области техники, и в области экономики, и в области культуры, [illegible] казались современникам ученого [illegible] олько утопичными и оторванными [illegible] насущных жизненных задач, Богданов в 20-х годах широко развернул свою научную деятельность. По его учебнику изучали политэкономию в партийных школах и на рабочих факультетах, он был одним из активных деятелей Коммунистической Академии. Многократно переиздавались и пользовались широкой популярностью его научно-фантастические романы «Красная звезда» (появившийся еще в 1908 году и изданный в США в 1984-м с подзаголовком «Первая большевистская утопия») и «Инженер Мэнни». Ленин поддержал выдвинутую Богдановым идею об организации в СССР первого в мире Института переливания крови. Этот институт (он существует и поныне) был создан при Наркомате здравоохранения в 1926 году, а Богданов стал его директором.

Наладить в стране службу переливания крови Богданов считал необходимым не только для чисто практических целей хирургии и травматологии. Он рассматривал переливание крови как практическое приложение «организационной науки»— для повышения жизнеспособности человеческого организма, борьбы со старостью и болезнями и хотел сделать переливание повседневной процедурой, превратив всех людей в «братьев по крови». Воодушевленный столь высокой идеей, он ставил на себе рискованные опыты. Одиннадцать из них закончились благополучно. Последний, двенадцатый, оказался неудачным...

Героическая смерть Богданова в 1928 году вызвала широкий отклик у советской общественности. Вдова Ленина, Надежда Крупская, в теплом письме к супруге Богданова выразила ей глубокое соболезнование. В похоронах Богданова приняла участие группа видных большевиков во главе с Николаем Бухариным, произнесши[illegible] раурную речь. Государственному ин[illegible] уту переливания крови было присвоено имя Богданова. Партийный журнал «Под знаменем марксизма» поместил некролог, в котором подчеркивалось, что русский пролетариат в лице своей партии никогда не забудет Ал[illegible] ндра Богданова — и как одного из [illegible] создателей, и как теоретика, впервые поставившего (пусть несвоевременно и неправильно) проблему культурной революции.

Но случилось иначе — Богданов оказался забыт. Причин тому было несколько. Прежде всего, с Богдановым в те годы произошло то же, что и со многими: Сталин прикрепил к нему ярлык «ревизиониста» и «антимарксиста». Но это было даже не главным. Основная причина заговора молчания вокруг имени и работ Богданова заключалась в том, что богдановская «организационная наука» прямо и недвусмысленно опровергала сталинский подход к построению социалистического общества.

Интерес к Богданову стал возрождаться в последние 20 лет, когда мировая наука начала осознавать необходимость и практическую полезность обобщенных теорий, которые позволяют создавать системы, охватывающие и людей, и вычислительную технику, и исполнительные механизмы. Советский биолог с мировым именем академик Армен Тахтаджян, американский профессор Г. Горелик (G. Gorelik) и другие не только установили общность богдановской тектологии с кибернетикой, теорией систем, структурализмом и теорией катастроф, но и показали, как она дополняет и бросает новый свет на эти науки. Тектология применима для построения кибернетических моделей и решения планово-экономических задач.

Еще в 1921 году Богданов высказал ряд актуальных и поныне идей о рациональной организации экономики и принципах социалистического планирования. Исходный пункт планирования, по Богданову,— расчет конечных потребностей населения. Для удовлетворения потребностей необходимы предметы потребления, для их производства нужны средства производства, а для их производства — другие средства производства. К сожалению, этот очевидный подход оказался отброшенным. Лозунг «опережающего развития тяжелой промышленности» привел к тому, что планирующие органы постепенно забыли, что конечная цель производства — удовлетворение потребностей людей. Получилось так, что станки выпускались для того, чтобы выпускать другие станки... и так до бесконечности.

Богданов выступил и пионером исключительно плодотворного применения к экономическому анализу «принципа слабого звена» или «закона наименьших». Этот подход развивался впоследствии американским ученым, лауреатом Нобелевской премии Василием Леонтьевым.

Богданов не был узким ученым — он тревожился за судьбу всего человечества. В 1908 году он предсказал громадные перспективы использования атомной энергии в мирных целях, а в 1912-м (раньше, чем кто-либо, в том числе раньше Уэллса и Вернадского) предупреждал об опасности самоуничтожения человечества в ядерной войне (в романе «Инженер Мэнни»). Разрозненным людям, писал Богданов 70 лет назад, не удастся взять под свой контроль атомную энергию — это под силу лишь общечеловеческому коллективу.

**Георгий ГЛОВЕЛИ,**
**экономист.**
(АПН).

## ПРИМИРЕНИЕ ГОСУДАРСТВА И РЕЛИГИИ

# *НОВЫЕ ВЕЯНИЯ*

М. С. Горбачев принимает Патриарха Русской православной церкви Пимена. Журнал «Огонек» осуждает необоснованные репрессии, которым подверглись в сталинскую эпоху многие священники и иерархи. Московское телевидение регулярно приглашает выступать людей в рясах. Что все это означает?

Возвращение «вечной Руси» к богу? Отступление от марксизма или пересмотр атеистических позиций партии? Одним словом, победу «царства Божия на небе» над «земным раем» большевиков? Или «еще одну попытку лакировки», как некоторые выражаются, действительности? У меня другой ответ: речь идет о нормализации отношений между двумя мирами, до того не очень гармонично сосуществовавшими в нашем обществе.

Октябрьская революция была, по сути, предана анафеме тогдашним главой русского православия патриархом Тихоном, хотя в то же время множество верующих поддержало провозглашенные большевиками идеалы. С тех пор в Москве-реке утекло много воды. Думаю, что и Советское государство, и ведущая — по количеству храмов и соответственно прихожан— церковь страны, православная, многому научились за прошедшие десятилетия.

Прежде всего церковь больше вовлекается теперь в социальные проблемы, определяющие идеологию и политику Советской власти. Православное богословие по-иному трактует ныне вопросы собственности, взаимоотношения личного и общественного, саму идею прогресса. Не секрет, что даже «моральный кодекс строителя коммунизма», сформулированный в партийных документах двадцатилетней давности, был во многом признан богословами.

Впрочем, теология освобождения, внимание религий к социальным проблемам, активное участие иерархов разных конфессий в миротворческой деятельности — феномен вселенский, который в значительной степени обязан своим рождением Октябрю 1917 года.

Верно и другое. Справедливость, свобода, равенство — идеалы большевиков — были созвучны христианским устремлениям. Жертвенность большевиков, их личная скромность, отсутствие у них стремлений к собственному благополучию делали героев революции близкими мученикам за веру, коих немало знало православие. И, наконец, сегодняшнее возвращение к ценностям «раннего советского социализма».

Пожалуй, прежде всего необходимо отметить исправление преступлений, несправедливости и ошибок, допущенных Советской властью по отношению к христианам. Об этом недвусмысленно сказал председатель Совета по делам религий при Совете Министров СССР К. Харчев. Немало уже сделано после апреля 1985 года в отношении миллионов людей, которых у нас, исходя из социологических исследований, относят к верующим.

**Ширится понимание того, что никакое насилие не способно покончить с религиозным мышлением. До сих пор, к сожалению, чиновники на местах часто продолжают исходить из силового отношения к верующим, несколько напоминающего мне отношение Вашингтона к коммунистам. К. Харчев проводит четкую грань между религией как мировоззрением, с которым марксизм вел и ведет идейное сражение, и церковью как общественным институтом, отношения власти с которым основываются на соблюдении закона и взаимном уважении. Ведь в конечном счете, подчеркивает он, создание рая на Земле важнее для нас, чем единство мнений пролетариев о рае небесном.**

**Организацию верующих нельзя отрывать от происходящих в обществе процессов. Тем более что подавляющее большинство иерархов, не говоря уж о верующих, активно поддерживает перестройку. Сегодняшняя гласность предоставляет людям церкви гораздо большие возможности — и тот же председатель правительственного Совета по делам религий не видит «ничего страшного» ни в идее издания религиозной газеты (вслед за уже существующими журналами), ни в образовании верующими кооперативов и прочих ассоциаций, ни в значительном увеличении издания богословской литературы, ни в разрешении церкви вести благотворительную работу или уроки «закона Божьего» по частной или семейной инициативе, вне рамок государственной школы, что разрешалось еще при Ленине.**

Коли мы уделяем сегодня так много внимания человеческому фактору и инициативе каждого гражданина, говорим о необходимости более активной поддержки обществом таких идеалов, как гуманность, любовь, милосердие, нравственное самосовершенствование, то общего с христианами у коммунистов становится ныне явно больше.

Советская власть учится терпению в работе с инакомыслящими, начинает прислушиваться к церковнослужителям, внимательнее относится к верующим, готовит новое законодательство о свободе совести и религиозных объединений. Упадок нравственных ценностей, наблюдавшийся в нашем обществе в годы сталинизма и в период застоя, на мой взгляд, даже требует более активного участия верующих в утверждении традиционных ценностей.

Приспособление христианских церквей к социалистическому государству, хотя они и отделены законодательно, уже произошло, сегодня идет процесс примирения государства и христианства, государства и религии вообще. Всплески недоразумений и конфликтов, очевидно, еще будут, но наше общество в целом осознало значение духовного мира для верующих сограждан. Перед дальнейшим сосуществованием социализма и христианства, отнюдь не исключающим цивилизованной идеологической борьбы, горит зеленый свет.

**Александр ИГНАТОВ.**

## 22 ЛІПЕНЯ—ДЗЕНЬ АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

# ШЛЯХАМ ДАЎНІНЫ І СУЧАСНАСЦІ

### З ГІСТОРЫІ ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІХ КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЕЙ

Падарожжа да польскіх сяброў у Варшаву і Кракаў хвалявала і радавала мяне. Гэта, відаць, таму, што цябе там чакалі, што ў многіх месцах адчуеш непасрэдную сувязь з беларускай гісторыяй і культурай.

У вандроўцы па Варшаве прыемна ўражвалі назвы вуліц, якія неяк па-асабліваму станавіліся блізкімі сэрцу. Не мінаеш ніводнай шыльды. А яны, быццам зачараваныя, прамаўляюць: «Брэсцкая», «Віцебская», «Гродзенская», «Дзвінская», «Клецкая», «Лідская», «Нясвіжская», «Налібоцкая», «Нёманская» «Пінская», «Нарач»... З цэнтра горада, ад Палаца культуры і навукі, калі ісці да дзяльніцы Макотуў па алеі Непадлегласці (алея Незалежнасці), трапляеш на вуліцу Яна Чачота. Міжвольна ўзрушаны: імя беларуска-польскага паэта, фальклярыста ўшанавана ў Варшаве. І адначасова рабілася крыўдна, што яно не ўслаўлена яшчэ нідзе там, дзе жывуць беларусы, скажам, у Мінску, Навагрудку, дзе ён вучыўся, або ў Баранавічах, дзе ў ваколіцах пэўны час жыў са сваімі бацькамі. Вядома, Ян Чачот мае заслугі не толькі перад польскай культурай, але і перад беларускай. Гэта пра яго з вялікай пашанай гаварыў польскі паэт Уладзіслаў Сыракомля, адзначаючы, што Ян Чачот першы «псціўся... з мовай і паэзіяй беларускага народа, сабраў яго песні, удала перакладаў іх вершам на польскую мову, выдаў іх у арыгінале, сам рабіў спробы пісаць песні на гэтай мове, сабраў народныя прыказкі і, зрабіўшы над мовай шмат трапных заўваг, **заклаў пеошыя падваліны яе граматыкі»** (падкрэслена мною — **Л. М.**). У паўночна-заходняй частцы Варшавы, там, дзе дзяльніца Марымонт, непадалёку ад Бяляньскага ляска, пралягае вуліца Купалы.

Да чулых сэрцаў палякаў, як і беларусаў, ціхім голасам гісторыі прамаўляюць велічныя помнікі Адаму Міцкевічу і Станіславу Манюшку, многія экспанаты Музея літаратуры імя Адама Міцкевіча ля Рынка Старога Мяста і Нацыянальнага гістарычнага музея, размешчанага пры алеі Еразалімскай, якія згадваюць пра братэрства і ўзаемадзеянне суседніх культур.

На вуліцах Варшавы часта можна ўбачыць мемарыяльныя дошкі ў форме крыжа, што ўзнаўляюць вайсковы ордэн «Віртуці Мілітары». Надпіс на іх гаворыць, што гэта «месца, асвечанае кроўю палякаў, якія загінулі за незалежнасць сваёй радзімы». Такіх памятных месцаў у Варшаве налічваецца каля чатырох соцень. Палякі любяць і шануюць сваю гісторыю. Варшавяне любых узростаў, а найчасцей вучні школ, ахвотна раскажуць вам паданне, як ля пераправы на сярэднім цячэнні ракі Віслы Варс і Сава заснавалі невялікае пасяленне, ад якога ў будучыні атрымала сваю назву Варшава. Пастараюцца ўдакладніць, што гэта было вельмі даўно — шмат вякоў таму назад. Аб зручнай пераправе праз шырокую славянскую раку ведаў ужо старажытнагрэчаскі вучоны Клаўдзій Пталамей. На сваёй карце маршрутаў, прызначаный для купцоў і падарожнікаў, што накіроўваліся з Грэцыі і Рыма ў паўночныя краіны за балтыйскім бурштынам, ён пазначыў і гэта месца, як ім лягчэй было знайсці яго.

Праз віслянскую пераправу ля Варшавы ў заходнія краіны і ў Чэхію вандравалі таксама купцы з беларуска-літоўскіх зямель, а з імі і жакі — тагачасныя студэнты — на вучобу ў вышэйшых школах.

Дзякуючы гасціннасці і клопатам прафесара Збігнева Кляпацкага, дырэктара Інстытута сацыялістычных краін Польскай Акадэміі навук, у таварыстве навуковай супрацоўніцы Ганкі Сырочыньскай і яе сябрука Дарэка, інжынера-геолага, цягніком «Паланез» я адправіўся наведаць тысячагадовы Кракаў.

Кракаў — старадаўняя сталіца Польшчы. Раніцай, калі мы прыехалі, вежы касцёлаў, дахі дамоў і старыя вуліцы ахутвалі густыя надвіслянскія туманы. Таму легенда пра дракона Смока, якую расказваў Дарэк, здалася вельмі праўдападобнай. Страшыдла Смок жыў у скальнай Яскіні (пячоры) і выходзіў на ловы-паляванне толькі ноччу або тады, калі наваколле засцілалася туманамі. Смок ганяўся за прыгажунямі-дзяўчатамі да той пары, пакуль не прыйш[illegible]оды адважны юнак па імен[illegible]рак. Ён перамог Смока на пагорку Вавэль. На ім Крак пабудаваў абарончую цытадэль, якая падступала амаль да самага берага Віслы. Тут і вырас пасад, які хутка, [illegible] блі-ва калі сюды ў 1038 [illegible]дзе ўладальнікі з дынастыі Пястаў перанеслі з Гнезна сталіцу польскай дзяржавы, ператварыўся ў горад з манументальнымі пабудовамі, што добра захаваліся і да нашых дзён. Гэта частка Кракава завецца Старэ Място. Тут можна ўявіць амаль усю гісторыю Польшчы, а часткова нават і суседніх народаў.

У 1364 годзе ў Кракаве быў заснаваны універсітэт, які атрымаў назву Ягелонскага. Гэта была другая вышэйшая школа ў Сярэдняй Еўропе пасля Пражскай. З таго часу Кракаў становіцца буйнейшым міжнародным цэнтрам навукі. У сценах універсітэта вучыўся будучы вялікі астраном Мікалай Капернік. Выхаванцам Ягелонскага універсітэта быў і беларускі першадрукар і асветнік-гуманіст Францішак Скарына. Ён вучыўся тут у 1504—1506 гадах. Але, як сведчаць архіўныя дакументы, выхадцы з беларуска-літоўскіх земляў пачалі сюды прыязджаць на вучобу на шмат дзесяцігоддзяў раней. Іх імёны ў дакументах сустракаюцца ўжо ў пачатку XV стагоддзя. Юнакі паходзілі з розных гарадоў, мястэчак і нават вёсак. Былі тут студэнты родам з Ашмян, Брэста, Валожына, Гродна, Клецка, Навагрудка, Ліды, Міра, Мядзеля, Полацка, Ваўкавыска, Віцебска, Слоніма, Свіра, Ракава, Дакудава, Слуцка, Жупран, з многіх мясцін Міншчыны і Пружаншчыны. Некаторыя з выхаванцаў Ягелонскага універсітэта, якія паходзілі з беларуска-літоўскіх зямель, атрымлівалі і вучоную ступень бакалаўра. Можа паказаць дзіўным, што ў эпоху феадальных парадкаў даволі значную частку студэнцтва складалі дзеці мяшчан-рамеснікаў, купцоў, каля дзесяці працэнтаў — з сялянскіх сем'яў.

Той далёкі час маўкліва захоўвае старадаўні гмах універсітэта. Па-ранейшаму ўтульны дворык, які хараша абрамляе аркадная галерэя. Колішні Калегіум Маюс і, нарэшце, усё Старэ Място з Вавэльскім замкам, ратушай, Марыяцкім касцёлам, Галоўным рынкам, святынямі Ганны, Пятра і Паўла дапамагаюць глыбей адчуць гісторыю палякаў, іх сувязі з іншымі народамі.

Пазнейшыя эпохі тут таксама пакінулі свае сляды. З бастыёна перад Вавэльскім замкам на п'едэстале наведвальнікаў урачыста сустракае бронзавы Тадэвуш Касцюшка — нацыянальны герой Польшчы і герой Злучаных Штатаў Амерыкі — наш вялікі зямляк. З узрушанасцю аглядаем на пляцы Галоўнага рынку тое месца, дзе 24 сакавіка 1794 года ён урачыста прысягаў, што даверанай яму ўлады не выкарыстае ні для чыіх асабістых мэтаў, а будзе «ажыццяўляць яе для абароны непарушнасці граніц, аднаўлення самаўладдзя народа і сцвярджэння свабоды». На гэтым месцы, дзе Тадэвуш Касцюшка даваў народу прысягу, ляжыць мемарыяльная пліта. Тут жа, непадалёку, перад старадаўнімі Сукенніцамі (гандлёвымі радамі па продажу сукнаў), узвышаецца арыгінальны помнік другому славутаму нашаму земляку — вялікаму польскаму паэту Адаму Міцкевічу.

Польскі народ свята ўшаноўвае памяць гэтых заслужаных людзей. Іх астанкі перавезены з-за граніцы і спачываюць у каралеўскай грабніцы Вавэльскага замка.

Захапляе Кракаў сваёй даўнінай. У XVI стагоддзі горад становіцца калыскай галоўных плыняў польскага Адраджэння, якое зрабіла значны ўплыў на грамадска-культурнае жыццё на беларуска-літоўскіх землях. Перанясенне сталіцы ў Варшаву на сумежжы XVI—XVII стагоддзяў адбілася на палітычным і эканамічным становішчы Кракава. Аднак ён па-ранейшаму заставаўся культурнай сталіцай Польшчы. У самыя змрочныя часы, калі Рэч Паспалітая была падзелена суседнімі дзяржавамі, а Кракаў быў далучаны да Аўстрыйскай імперыі, тут усё ж даспявалі новыя плыні ў духоўным жыцці, патрыятычная польская інтэлігенцыя шмат рабіла для кансалідацыі сваёй нацыі, імкнулася аказваць практычную дапамогу братнім славянскім народам у адраджэнні нацыянальных культур.

Менавіта з такой мэтай у ліпені 1891 года прыязджаў у Кракаў Францішак Багушэвіч. Праўда, для гэтага ім была выкарыстана аказія прыехаць удзел у з'ездзе польскіх прыродазнаўцаў, які там планаваўся правесці. У Кракаве беларускі паэт-дэмакрат пазнаёміўся з вядомым фалькларыстам і этнографам Міхалам Федароўскім, польскімі вучонымі-лінгвістамі Янам Быстронем і Люцыянам Маліноўскім, журналістам Тытусам Сападзкам, выдаўцом Уладзіславам Анчыцам. Знаёмствы і сустрэчы з прадстаўнікамі прагрэсіўнай польскай інтэлігенцыі мелі для Францішка Багушэвіча вялікае значэнне. Яны акрылілі яго як паэта. Чакаць прыйшлося нядоўга. У канцы таго ж года пад псеўданімам Мацей Бурачок у Кракаве быў выдадзены зборнік паэтычных твораў Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская».

На гэту радасную падзею з сардэчнай прыязнасцю адгукнуўся ў часопісе «Пшэглёнд паўшэхны» Тытус Сападзка. У майскім нумары за 1892 год ён пісаў: «Дудка беларуская» Мацея Бурачка. Пад такой назвай у канцы мінулага года выйшаў невялікі паэтычны зборнік на беларускай ці крывічанскай мове. Гэта нібы сумнае рэха скаргі, якая далятае з далёкага і амаль забытага літоўскага краю паміж Дзвіною, Дняпром і Прыпяццю. Пагартаем старонкі простай той кніжачкі, можа яны што-небудзь раскажуць [illegible] новае, можа гукі белар[illegible]й жалейкі абудзяць у нашых сэрцах якісь здаўна некранутыя струны.

Паэзія невядомага аўтара... мае досыць сімпатычную прадмову, у якой ён імкнецца [illegible]рунтаваць права на развіц[illegible]роднай мовы».

Выхад у свет беларускай кнігі заўважылі многія культурныя дзеячы таго часу. Італьянскі літаратар Дж. Месіна, напрыклад, пісаў так: «Калі ў новай беларускай літаратуры і можа быць метрычны выпіс яе нараджэння, — дык гэта час апублікавання ў Кракаве твораў Мацея Бурачка».

У сябе на радзіме Францішак Багушэвіч не меў магчымасці выпусціць у свет сваю кнігу на роднай мове. Дрэкаванае беларускае слова царская цэнзура забараняла. Таму падтрымку польскіх сяброў у Кракаве высока цанілі беларускія студэнты, якія вучыліся ў розных славянскіх гарадах. Гэта падтрымка імі расцэньвалася як сапраўды братэрская.

Знаёмячыся разам з варшаўскімі сябрамі са славутасцямі Кракава, разважаючы аб яго ролі ў развіцці і станаўленні славянскіх культурных традыцый, мы ўспомнілі добрым словам актыўную беларускую рэвалюцыянерку, пісьменніцу Алаізу Пашкевіч, якая выступала ў літаратуры пад псеўданімамі Цётка, Мацей Крапіўка, Гаўрыла з Полацка. Яе жыццёвыя сцежкі перакрыжоўваюцца таксама тут, у Кракаве. Дзесьці на кракаўскім магільніку спачываюць астанкі слыннага беларускага паэта Алеся Гаруна (Александра Прушынскага).

Кракаў сваёй багатай даўнінай і цяперашнімі культурнымі набыткамі ўражвае кожнага, хто сюды прыязджае.

Польскія калегі і сябры імкнуліся як найбольш паказаць госцю з беларускага Мінска (трэба памятаць, што пад Варшавай ёсць горад Мінск Мазавецкі), пазнаёміць з найноўшымі працамі, якія сваёй тэматыкай датычаць гісторыі і культуры беларусаў. Прэзентуючы кнігу Станіслава Лорэнтца «Віленьскі альбом» (1986), прафесар Збігнеў Кляпацкі з прыемнасцю адзначыў, што шаноўны аўтар гэтага выдання ў сваіх успамінах уваскрашае партрэты шматлікіх працаўнікоў культуры і навукі, якія пакінулі прыкметны след у гісторыі краю над хуткаплынным Нёманам і серабрыстай Віліяй.

Значную цікавасць выклікаюць працы польскіх вучоных, прысвечаныя сярэднявяковаму перыяду гісторыі суседніх братніх народаў, перш за ўсё гэта манаграфічныя даследаванні Марыі Барбары Тапольскай «Чытач і кніга ў Вялікім княстве Літоўскім у перыяд Рэнесанса і Барока» (1984) і Стэфана Кучыньскага «Бітва пад Грунвальдам» (1985), да якой прыложаны складзеныя аўтарам адзінаццаць карт ваенных дзеянняў аб'яднаных армій Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага супраць войска Тэўтонскага ордэна.

Навейшаму часу прысвечаны кнігі Ежы Тамашэўскага «Рэч Паспалітая некалькіх народаў» (1985), Аляксандры Бергман «Беларускія справы ў ІІ-й Рэчы Паспалітай» (1983), Сакрата Яновіча «Беларусь, Беларусь!..» (1987), Мікалая Бухарына і Ацільды Вышамірскай - Кузьміньскай «Польска-савецкае навуковае супрацоўніцтва ў 1944—1986 гадах» (1987), сумесная праца гісторыкаў, у якой пэўная частка адведзена разгляду сувязей Польскай акадэміі навук з інстытутамі Акадэміі навук БССР.

Шырокае прызнанне ў Польскай Народнай Рэспубліцы атрымалі вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў прафесара Вроцлаўскага універсітэта Францішка Сяліцкага «Беларускі фальклор» (1983) і «Беларуская літаратура да канца XVIII стагоддзя» (1985).

Трэба зазначыць, што ў брацкай Польшчы стала шырыцца цікавасць да беларускай мастацкай літаратуры. Тут палюбілі паэзію Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Дануты Бічэль-Загнетавай. З жанру прозы высокую ацэнку ў польскай грамадскасці атрымалі творы Янкі Брыля, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Адамовіча і Івана Пташнікава. Часцей за ўсё ў Польшчы перакладаюцца і выдаюцца аповесці Васіля Быкава.

Прыемна ўсведамляць, што культурныя сувязі і навуковае супрацоўніцтва Беларусі і Польшчы ў апошнія гады набіраюць размах. Гэтаму значна спрыяюць прамыя сувязі Акадэміі навук БССР і Польскай акадэміі навук. Беларускія і польскія вучоныя сумесна распрацоўваюць шэраг актуальных тэм. У рамках супрацоўніцтва група вучоных аддзела замежных славян Інстытута гісторыі АН БССР разам з калегамі Інстытута сацыялістычных краін ПАН рыхтуе да выдання кнігу пра супрацоўніцтва Беларускай ССР і Польскай Народнай Рэспублікі ў грамадска-палітычнай, эканамічнай і культурнай галінах. Да нас, у Мінск, для абмеркавання структуры сумеснай кнігі і збору дакументальных матэрыялаў прыязджалі польскія гісторыкі. І вось цяпер яны дапамагаюць мне, як аднаму з выканаўцаў калектыўнай тэмы, знаёміцца з гісторыяй і культурай польскага народа, яго багатымі духоўнымі сувязямі з суседнімі народамі.

**Леў МІРАЧЫЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

Варшава — Кракаў — Мінск.

## СУМЕСНАЯ РАБОТА КІНАСТУДЫЙ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ» І «ЗЭСПОЛЫ ФІЛЬМОВЕ»



# „ПЕРАПРАВА“

Беларускія майстры экрана маюць багаты вопыт сумесных пастановак з польскімі кінематаграфістамі. У розны час на студыі «Беларусьфільм» вядомы польскі рэжысёр Ежы Гофман працаваў над сваімі сусветна вядомымі экранізацыямі «Патопа» і «Пана Валадыеўскага», а ў Кракаве і Лодзі народны артыст БССР Леў Голуб здымаў не менш вядомую стужку «Паланез Агінскага». Цяпер вядучы майстар беларускага кіно народны артыст СССР кінарэжысёр Віктар Тураў прадставіў на суд гледачоў вялікую, эпічна-маштабную карціну «Пераправа», знятую сумесна з кінематаграфістамі студыі «Зэсполы фільмове». Гэта хвалюючае апавяданне аб адным з самых складаных перыядаў ва ўзаемаадносінах польскага і савецкага народаў.

Фільм вяртае нас у мінулае. Падзеі, якія сталі падставай для яго стварэння, дэталёва апісаны ў польскай гістарычнай літаратуры. На аснове іх драматург Ежы Гжымоўскі і Віктар Тураў напісалі сцэнарый аб трагедыі сакавіка-чэрвеня 1944 года, калі ў раёне Сольскай пушчы і Яноўскіх лясоў трапілі ў акружэнне тры тысячы савецкіх і польскіх партызан.

1944 год. Вясна. Бездараж. У прыгранічныя раёны Польшчы, апярэджваючы наступаючыя рэгулярныя часці Чырвонай Арміі, уступілі атрады савецкіх партызан. Яны прыйшлі на тэрыторыю, дзе дыслацыраваліся сілы польскага Супраціўлення — атрады Арміі Людовай і Арміі Краёвай. Брацкае яднанне з байцамі Арміі Людовай, з аднаго боку, і недавер і адчужанасць камандавання часцей Арміі Краёвай, з другога, і з'яўляюцца вытокам драматычных падзей.

Польскі народ марыў аб вызваленні радзімы і аб дэмакратычных пераўтварэннях, але эмігранцкі ўрад Польшчы, які знаходзіўся ў Лондане, прапаведаваў так званую палітыку «двух ворагаў», арыентуючы сваіх суайчыннікаў як супраць фашысцкай Германіі, так і супраць Савецкага Саюза. Вынікам яе з'явілася бессэнсоўная гібель многіх тысяч польскіх салдат і афіцэраў.

Аўтары фільма праз лёсы простых людзей расказваюць гісторыю складаных, супярэчлівых узаемасувязей польскага і савецкага народаў. Напрыклад, у вельмі напружаных ваенных, ды і не да канца ясных палітычных абставінах камандзір савецкага партызанскага атрада маёр Судакоў (артыст Барыс Няўзораў) праяўляе сябе рашучым і мэтанакіраваным, сумленным і тактоўным чалавекам. Усе яго ўчынкі прадыктаваны перакананнем, што бакам, якія змагаюцца супраць фашызму, неабходна забыцца на свае спрэчкі і крыўды ў імя перамогі над ненавісным ворагам.

Іншую пазіцыю займаюць камандзіры Арміі Краёвай, якія адхіляюць садружнасць з савецкімі войскамі. У той жа час савецкія і польскія байцы без цяжкасцей знаходзілі агульную мову. Яркім прыкладам інтэрнацыянальнай дружбы служаць адносіны былога будзёнаўца Ягора Яфрэмавіча (артыст Юрый Гарабец) і старога паляка «Брузды», які ў 20-я гады ваяваў у арміі Пілсудскага. Калісьці яны былі па розныя бакі фронта, цяпер Ягор і «Брузды» змагаюцца разам за вызваленне шматпакутнай Польшчы ад гітлераўскіх захопнікаў. За іх асабістымі лёсамі прасочваецца гісторыя, і на сваім «салдацкім» узроўні яны ацэньваюць мінулае і сучаснае і пранікаюцца ўзаемным даверам.

Бязлітасныя баі з праціўнікам вядуць байцы пад камандаваннем маёра Судакова. Але сілы няроўныя. Судакоў прапануе «акаўцам» адзіны план выхаду з акружэння. Але яго не прымаюць. Па лонданскаму плану атрад «Бжэзіны» павінен пры ўсіх абставінах заставацца ў гэтым раёне. Без падтрымкі, акружаныя нямецкімі войскамі, польскія салдаты гінуць у няроўным баі...

Фільм «Пераправа» не толькі справаздача аб тых суровых падзеях, але і іх рэстаўрацыя. Пастаноўшчыкі карціны імкнуліся, каб іх стужка стала заклікам да сэрцаў і розумаў тых, каму не давялося браць урокі жыцця на войнах, да моладзі, якая ведае аб мінулых падзеях мала і аднабакова. «Хацелася б, каб фільм стаў хоць бы частковым выкананнем абавязку перад загінуўшымі, — гаворыць пастаноўшчык Віктар Тураў. — Ім не дадзена было прысвяціць свае сілы мірнаму будаўніцтву. Яны, загінуўшыя савецкія і польскія байцы, служылі і служаць сваім дзецям і ўнукам толькі адным — прыкладам сваіх перажыванняў, пакутамі памылак, вопытам свайго жыцця і смерці, урокамі свайго лёсу».

**Яўген КРУПЕНЯ.**

**НА ЗДЫМКУ:** кадр з фільма «Пераправа».

## XIX ПАРТКАНФЕРЭНЦЫЯ І МАСТАЦКАЯ КУЛЬТУРА

# МЫСЛІЦЬ САМАСТОЙНА

Першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Уладзімір Карпаў, выступаючы на XIX Усесаюзнай партканферэнцыі, назваў кнігі, якія прыцягнулі апошнім часам асаблівую ўвагу чытачоў — савецкіх і замежных. Калі ён упамянуў «Дзеці Арбата» Анатолія Рыбакова, у зале падняўся гоман: так некаторыя дэлегаты выказалі свае адносіны да кнігі маскоўскага пісьменніка.

У гэтай рэакцыі адбіліся, у нейкай ступені, два вельмі характэрныя моманты. Папершае, роля, якую адыгрываюць сёння ў грамадскіх спрэчках (у тым ліку і на партканферэнцыі) літаратура і мастацтва. Па-другое, той факт, што палітычныя погляды ў многім адбіваюцца на літаратурных густах.

«Дзеці Арбата» — твор антысталінскі, які ў самых рэзкіх фарбах малюе атмасферу часоў культу асобы. Можна падвяргаць сумненню мастацкія вартасці кнігі, але спрэчкі якраз менш за ўсё тычацца яе мастацкіх вартасцей. І, як мне здаецца, сярод прыхільнікаў гэтага твора — больш людзей, якія стаяць на прынцыпах і пазіцыях дэмакратычных пераўтварэнняў.

Праўда, з мінулым, развіццё публічнасці сталі, як і чакалася, прадметам палемікі. Не ўсім дэлегатам прыйшліся даспадобы дзеянні творчай інтэлігенцыі і прэсы, якія востра крытыкуюць становішча ў сацыяльнай і эканамічнай сферы, называюць рэчы сваімі імёнамі. Але, здаецца, нават самыя непрымірымыя нешта зразумелі ці адчулі, калі пісьменнік Рыгор Бакланаў заявіў з трыбуны партканферэнцыі: «Той, хто сёння змагаецца супраць публічнасці, змагаецца за сваё зняволенне. Калі яму запатрабуецца сказаць слова — і яму будзе адмоўлеиа ў гэтым слове».

Другі літаратар — Барыс Алейнік — так пракаменціраваў «дыскусію аб прэсе» ў гутарцы з карэспандэнтам «Известий»:

«Дзесяцігоддзямі панаваў у нас погляд на прэсу як на каляровую ілюстрацыю. А цяпер яна нарэшце вярнулася да свайго прызначэння, стала і сродкам інфармацыі, і інструментам крытыкі, і своеасаблівым грамадскім кантролем. Яна ўварвалася ў святая святых бюракрата — тайну яго кіравання. Вось той-сёй і пацепваецца... Але мы, журналісты, як і медыкі, не маем права на памылку. Публіцыстыцы проціпаказана некампетэнтнасць, тэндэнцыйнасць, безапеляцыйнасць».

Аматары статыстыкі падлічылі, што на XIX партканферэнцыі прысутнічала «ўсяго» 69 прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі, а ёй самой у дакладзе прысвечана «толькі» два абзацы. Але значэнне мастацтва вымяраецца не лічбамі і абзацамі, а тым уздзеяннем, якое яно аказвае на людзей, грамадства, атмасферу чалавечых адносін. Ва ўсіх комплексах праблем, аналізуемых у дакладзе Міхаіла Гарбачова (дэмакратызацыя жыцця народа, фарміраванне ў СССР прававой дзяржавы, новая роля КПСС у жыцці краіны), культуры адводзілася першаступенная роля. Усе самыя надзённыя пытанні палітыкі і эканомікі абмяркоўваліся на канферэнцыі ў цеснай сувязі з духоўнай сферай.

Як адаб'юцца на становішчы мастацтва вынікі XIX партканферэнцыі? Якія далейшыя перспектывы дзейнасці савецкіх мастакоў?

Зыходзячы з рашэнняў партыйнага форуму, можна меркаваць, што для развіцця мастацкага жыцця ствараюцца яшчэ больш спрыяльныя ўмовы. Партканферэнцыя пацвердзіла ў самай катэгарычнай форме недапушчальнасць дыктату і каманднa-адміністрацыйнага стылю ў культуры, выказалася за пашырэнне свабоды творчасці і публічнасці. Апаскі (а для некаторых — чаканне), што «зоны крытыкі» будуць абмежаваны, а мастакі пастаўлены ў «жорсткія» рамкі, — не пацвердзіліся. Міхаіл Гарбачоў у заключнай прамове назваў публічнасць «адной з гераінь канферэнцыі». Нягледзячы на неадназначнасць думак, выказаных дэлегатамі, партыйны форум выказаўся за ўсялякую падтрымку сродкаў інфармацыі «па расчыстцы, разграбанню разнастайных негатыўных з'яў». Такім чынам, пераўтварэнні ў мастацкай культуры атрымалі новы значны імпульс.

У чым будуць заключацца новыя крокі перамен у мастацтве? Не баючыся памыліцца, можна прадказаць — і ў ломцы ранейшай структуры творчых саюзаў, што аб'ядноўваюць пісьменнікаў, мастакоў, кінематаграфістаў, кампазітараў, тэатральных дзеячаў і іншых прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі. Нягледзячы на пэўную лібералізацыю, творчыя саюзы ў тым выглядзе, у якім яны функцыяніруюць сёння, — гэта па сутнасці частка сталінскай адміністрацыйнай сістэмы. Іх структура, створаная ў трыццатыя гады, бюракратычная. Іх асноўная функцыя — нават сёння — кантроль і кіраванне. Кожны саюз — іерархічная лесвіца — прэзідыумы, сакратарыяты, бюро, праўленні. І кожны саюз — свае, часта міжвольныя, чыноўнікі ад мастацтва.

Пакуль існуе падобная структура — рэформы ў творчых саюзах, у самой сферы мастацкай культуры перамагчы не змогуць. Значыць, гэтак жа, як і ў прамысловасці, як у сельскай гаспадарцы, ад структур, якія з'яўляюцца тормазам, трэба пазбаўляцца.

Каб атрымаць сапраўдную самастойнасць, творчыя арганізацыі павінны **самастойна** (у гэтым сэнс партыйнай палітыкі ў галіне культуры) разарваць уласныя адміністрацыйныя путы.

І па-другое. Творчыя саюзы павінны (і будуць — гэта відавочна) шырэй кантактаваць з так званымі нефармальнымі мастацкімі аб'яднаннямі, з людзьмі творчай працы, якія не значацца ў саюзах. У краіне тысячы і тысячы мастакоў, пісьменнікаў, акцёраў, сцэнарыстаў, кампазітараў, якія не маюць членскіх білетаў, але не перастаюць ад гэтага заставацца мастакамі, пісьменнікамі, кампазітарамі. Яны не могуць ужо знаходзіцца ўбаку ад грамадскага жыцця, ім трэба памагчы ўнесці свой уклад у перабудову.

Галоўнае пытанне, разгледжанае партканферэнцыяй, — усёахопная дэмакратызацыя ўсіх бакоў жыцця. Калі гаварыць аб ім вобразнай мовай, то гэта настойлівае запрашэнне да самастойнага мыслення. У гэтым працэсе мастацкай інтэлігенцыі і мастацкай творчасці адводзіцца надзвычай важная роля.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

# ГОСЦЬ З ТУНІСА

Госцем Саюза пісьменнікаў Беларусі быў вядомы туніскі пісьменнік і грамадскі дзеяч Мухамед Ларусі аль-Мэтві. Нарадзіўся ён у 1920 годзе, скончыў мусульманскі універсітэт аз-Зейтуна ў Тунісе. Быў паслом Туніса ў Іраку і Саудаўскай Аравіі, дэпутатам Нацыянальнага сходу Туніса. Старшыня Саюза туніскіх пісьменнікаў, клуба маладых літаратараў «Навела», галоўны рэдактар часопіса «Кысас» («Навелы»). Аўтар раманаў «Сярод ахвяр», «Халіма» (у Савецкім Саюзе выйшаў на рускай мове пад назвай «Сэрца жанчыны»), «Горкая шаўкавіца», некалькіх зборнікаў навел, эсэ на гістарычную і сацыяльна-культурную тэматыку.

Госць з цікавасцю азнаёміўся з выдатнымі мясцінамі горада-героя Мінска, наведаў мемарыяльны комплекс «Хатынь», музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, радзіму Янкі Купалы Вязынку і Літаратурны музей Якуба Коласа. У Саюзе пісьменнікаў Беларусі аль-Мэтві меў гутарку са старшынёй праўлення Максімам Танкам, першым сакратаром праўлення Нілам Гілевічам, сакратаром праўлення Васілём Зуёнкам.

У час размовы ён, у прыватнасці, сказаў:

— Саюз туніскіх пісьменнікаў — арганізацыя маладая, ёй дваццаць гадоў. Яна мае каля двухсот членаў, з іх пяцёра пішуць на французскай мове, астатнія — на арабі. Гэта вынік нашага змагання за волю і за нацыянальную самабытнасць. Мы маем добрыя адносіны з Асацыяцыяй пісьменнікаў Азіі і Афрыкі. Нашы сэрцы адкрыты ўсім пісьменнікам, у тым ліку і беларускім сябрам. Вярнуўшыся ў Туніс, я надрукую на арабскай мове верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?». Спадзяюся, што гэтым будзе пакладзены пачатак нашым добрым творчым узаемасувязям.

**Л. ЧАРЭШНЯ.**





# «КВЕТКА-ПАПАРАЦЬ УСХОДЗІЦЬ»

Вось і яшчэ раз адшумела, адцвіло на Беларусі Купалле. Пад рознымі назвамі яно вядома ўсім еўрапейскім народам. Гэта старажытнае народнае свята прымеркавана да перыяду летняга сонцастаяння. Калісьці быў пашыраны погляд, што Купалле — свята сонца, якое з'яўляецца крыніцай жыватворных сіл прыроды. Адсюль і ачышчальная моц агню і вады, якім у купальскіх абрадах аддаецца шмат увагі

Не толькі ў вёсках, але і ў гарадах, у сталіцы рэспублікі Мінску правядзенне абрадавых святаў, такіх, як Каляды, Гуканне вясны, Купалле, становіцца традыцыйным. У іх прымае ўдзел усё больш і больш людзей, асабліва моладзі, якая беражліва ставіцца да спадчыны продкаў, цікавіцца сваімі вытокамі.

Пры Беларускім фондзе культуры створана фальклорная камісія, якая на навуковай аснове занялася адраджэннем народных традыцый, абрадаў, фальклорнай спадчыны беларускага народа. У рабоце камісіі прымаюць удзел спецыялісты з Акадэміі навук БССР, сярод якіх найбольш актыўнымі з'яўляюцца кандыдаты філалагічных навук Г. Барташэвіч, Л. Салавей. Яны дапамагаюць стварыць сцэнарыі святаў, выкарыстоўваючы матэрыялы, прывезеныя са шматлікіх фальклорных экспедыцый:



магнітафонныя запісы, відэафільмы пра народныя абрады, дзеляцца рэцэптам «купальскіх» страў.

Сёлета купальскія святы прайшлі ў Мінску, Наваполацку, Стоўбцах, Станькаве, Вязынцы, у многіх беларускіх вёсках. Выканаўцамі былі студэнты, фальклорныя маладзёжныя ансамблі, нефармальнае аб'яднанне «Талака». Прымалі ўдзел у народных абрадах і дзеці. На свята ў Мінск быў запрошаны фальклорны калектыў з Краславы, што знаходзіцца ў суседняй Латвіі.

Фотарэпартаж аб святкаванні Купалля карэспандэнта Я. КАЗЮЛІ зроблены ў сяле Краснае, якое стаіць на беразе рэчкі Уша. У той вечар з песнямі і жартамі хадзілі па вёсцы хлопцы і дзяўчаты, усіх запрашаючы на Купалле.

Кажуць так, што на Купалле
У кожным лесавым куточку
Кветка-папараць усходзіць
Зацвітае ў гэту ночку..

Легенда пра папараць-кветку, у якой па-мастацку ўвасоблена спрадвечная мара чалавека пра шчасце, найбольш паэтычнае купальскае павер'е.

НА ЗДЫМКАХ: палае купальскае вогнішча; Купалінка — выпускніца Краснінскай сярэдняй школы Наталля КАРАТЭНКА; запрашэнне на свята.

*СПАДЧЫНА*

# СТВАРАЮЦЦА Ў ВЁСКАХ МУЗЕІ

Зберагаючы доўгі час дзедаўскія жорны, ступу, саламяныя кайстры, узорыстыя строі з адбеленага льну, вытканыя некалі бабулінымі рукамі, Яўгенія Мінкевіч з Бражнога, жыхарка Сямігосцічаў Вольга Пінчук і Алена Свірыдчук з Альшанаў не спадзяваліся, вядома, на іх практычнае прымяненне. Але як выкінеш рэч, што захоўвае адбітак трывог бацькоў і дотык тваіх, яшчэ дзіцячых рук. Хай застаецца ў каморы альбо на гарышчы! Таму не без ваганняў пусцілі туды супрацоўнікаў музея. А калі паразважалі — для людзей жа бяруць.

— Пачынаючы стварэнне ў Беражным музея этнаграфіі і сялянскага быту, мы і разлічвалі менавіта на гэтую шчодрую ашчаднасць, — гаворыць дырэктар Столінскага раённага краязнаўчага музея Святлана Луцкая. — Бо Століншчына — край багаты на дынастыі спрактыкаваных ткалляў, разьбяроў, ганчароў, кавалёў, цесляроў, распісчыкаў. Плёну іх нястомных рук хапала і сем'ям, і ўсяму наваколлю. Летняя этнаграфічная экспедыцыя надзеі гэтыя спраўдзіла з лішкам. Найбольш цікавыя знаходкі чакалі ў Сямігосцічах, Цярэблічах, Аздамічах і Альшанах. Тут набралася каля пяцісот экспанатаў.

Месцам размяшчэння экспазіцыі абраны помнік традыцыйнага народнага дойлідства, унесены ў Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, — драўляная царква, пастаўленая ў мінулым стагоддзі вясковымі цеслярамі. Цяпер іх пераемнікі, маладыя майстры мінскага ўчастка Гродзенскіх навукова-рэстаўрацыйных майстэрань Уладзімір Стаднік, Яўген Свірыдчук, Барыс Тукін заканчваюць рэстаўрацыйныя работы.

— З адкрыццём у наступным годзе музея, які будзе ўстановай дзяржаўнай, са сваім штатам навуковых супрацоўнікаў, работа не закончыцца, — расказвае загадчык аддзела культуры райвыканкома А. Стоўба. — Адразу пачнём стварэнне другой экспазіцыі, пад адкрытым небам. Што дасць стварэнне музейнага комплексу? Зберажом, па-першае, помнікі сялянскай архітэктуры, унесеныя ў Збор, па-другое, унутры іх збяром прадметы этнаграфіі і быту. Гэта ж таксама помнікі, якія патрабуюць захавання і вывучэння. На Беражным таму не спынімся. У музей народных рамёстваў ператорым пасля рэстаўрацыі драўляную царкву XVIII стагоддзя ў Давыд-Гарадку.

Пачынанне гэтае атрымлівае ў вобласці ўсё больш пасля[illegible]ікаў. Музей народнага мастацтва адкрыецца хутка ў [illegible]се «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна. Стараннямі краязнаўцаў багатая этнаграфічная экспазіцыя створана ў суседнім калгасе «Дружба». Рэгіянальным музеем этнаграфіі і сялянскага быту будзе і драўляная царква ў Моладаве на Брэстчыне. А ў цаглянай капліцы, пабудаванай архітэктарам Т. Раствароўскім у пачатку стагоддзя, размесціцца калгасная карцінная галерэя.

**М. КАЗЛОВІЧ.**

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# СІВАЯ ЛЕГЕНДА

На мяжы Стаўбцоўскага і Карэліцкага раёнаў, паміж вёскамі Беражна — Ініца — Бербашы, здаўна раскінуўся вялікі лясны масіў. Калісьці ён належаў магнату князю Мірскаму. Цяпер гэта народная ўласнасць, а даглядае яго Мірскае лясніцтва. Мясцовыя жыхары называюць яго Бярштаны.

У адзін зімовы дзень мы былі на паляванні ў Бярштанах. Нам чамусьці не шанцавала: пасіўныя былі сабакі, не падымаліся зайцы. Таму распалілі касцёр і пачалі абедаць. З намі быў і мясцовы настаўнік-пенсіянер.

— Можа вы ведаеце, чаму ў гэтага лесу такая назва? — спытаў у яго.

— Фактычна лес носіць назву нашае вёскі Беражна. Але ўсе ў наваколлі называюць яго Бярштаны, — адказаў ён. — Дакладна не ведаю, але раскажу тое, што калісьці чуў ад самага старога чалавека.

— Вельмі цікава, — прамовіў хтосьці з нас.

—Дык калі верыць старому кавалю, было гэта так: даўным-даўно барацьбіты за народную справу пад началам Кастуся Каліноўскага вялі бой з царскім генералам Мураўёвым-вешальнікам. Але бой скончыўся не на карысць паўстанцаў, і яны вымушаны былі адыходзіць. На іх шляху Нёман. Рабіць мост не было калі, таму паўстанцы пераплылі раку і пайшлі ў глыбіню лесу. Там расклалі кастры і пачалі сушыць вопратку.

Па іх следу ішоў атрад карнікаў. Вартавыя паўстанцаў заўважылі іх вельмі позна, таму камандзір атрада голасна падаў каманду: «Бяры штаны і ратуйся!» Паўстанцы разбегліся па лесе.

З таго часу яны паміж сабою гэты лес называлі «Бяры штаны». Пазней для зручнасці вымаўлення спалучылі гэтыя словы, і атрымаліся Бярштаны. Наколькі гэтая легенда адпавядае сапраўднасці, не ведаю, але ўпэўнены — доля праўды ёсць.

**Яўген КРАМКО.**

# СІНОПТЫКІ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ...

Больш дакладнымі сталі прагнозы надвор'я, якія складаюць брэсцкія сіноптыкі.

Яны пачалі весці кругласутачнае радыёзандзіраванне атмасферы з дапамогай сучаснага інфармацыйна-вылічальнага комплексу АВК-1, які забяспечвае не толькі суправаджэнне радыёзонда, але і імгненна апрацоўвае атрыманую інфармацыю, складае аэралагічныя тэлеграмы. Атрыманыя тут даныя перадаюцца ў гідраметэацэнтры Масквы, Мінска і краіны Сусветнай метэаралагічнай арганізацыі для складання прагнозу надвор'я ва ўсім свеце.

Брэсцкія гідраметэаролагі наладзілі таксама пастаяннае вывучэнне гідралагічнага рэжыму вадаёмаў, які ажыццяўляюць у вобласці 15 спецыяльных пастоў. Інфармацыя аб узроўні, тэмпературы і расходзе вады ў рэках выкарыстоўваецца ў народнай гаспадарцы.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1094